# КРЫВІНКА

ЛІСТАПАД
№ 17 (207)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ДА 100-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ "ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА"

**Сёння многія спрачаюцца пра сусветны ўплыў Кастрычніцкай "рэвалюцыі", пра тое, ці змяніла яна свет. Не ведаю, як свет, а вось тое, што яна змяніла жыццё беларусаў – факт.**

А ў які бок тыя змяненні, памяркуйма разам.

Праз 100 гадоў пасля "Вялікага Кастрычніка" наш раён атрымаў такую ўраджайнасць збожжавых, якая ўжо была ... 100 гадоў таму ў развітых краінах Заходняй Еўропы. Яшчэ ў 1908 – 1912 г.г. сярэдняя ураджайнасць у Бельгіі, Галандыі, Даніі, Швейцарыі, Англіі, Германіі і Швецыі складала ад 18 да 23 ц/га. Факт застаецца фактам, але праз 100 гадоў пасля такой "лёсавызначальнай падзеі" кукуруза – царыца палёў, як яе красамоўна называюць, – засталася на бешанковіцкіх палетках зімаваць. Сёння яе збіваюць, топчуць, заворваюць, адным словам, пазбаўляюцца ўсіх доказаў яе існавання.

Нельга адмаўляць і той факт, што "Вялікі Кастрычнік" за 100 гадоў не прывёў да адмены эксплуатацыі чалавека чалавекам. Бо ў тых жа калгасах, з іхняй кукурузай і іншым дабром, сёння за працу раба-механізатара плацяць горкія капейкі. А вось паны-начальнікі атрымоўваюць ладныя кавалкі, не асабліва шчыруючы пры гэтым. Ну, хіба што глоткай.

Нашыя калгасы, створаныя пасля поўнага знішчэння заможнага сялянства – так званых кулакоў, ад свайго заснавання былі мёртванароджаным дзіцём. Як іх ні рэарганізоўвалі, як ні змянялі іхнюю назву, іхняя сутнасць засталася ранейшай – рабская паднявольная праца. Толькі сляпому сёння не бачна, што гэта – эканамічны тупік нашай краіны.

Адначасова калгасы – магіла нашай духоўнасці. Каб даказаць тое, варта ўзгадаць народныя выслоўі: "Хто ў калгасе не злодзей, той дома не гаспадар" ці "У калгасе добра жыць: адзін робіць – сем ляжыць..." і г. д. Крадзеж і п'янства – два неразлучныя спадарожнікі калгасаў праз усю іхнюю гісторыю існавання. І першапрычынай гэтых з'яваў з'яўляецца адсутнасць уласнасці на зямлю і на сродкі вытворчасці. На сваіх прысядзібных сотках уласнік-беларус паказвае цуды ўраджайнасці. А на калгасных гектарах пануе поўны заняпад. І аніякі начальнік не здольны змяніць заганную сітуацыю.

Мы цалкам страцілі беларускую вёску і яе гаспадара – селяніна. Як вынік – дзясяткі і дзясяткі выміраючых вёсак у раёне. Нават тыя вёскі, што доўгія гады былі цэнтрамі калгасаў, сёння занядбаныя данельга. Двор Нізгалава, Плісы, Паліцы, Ганкавічы, Рубеж, Сокарава... Яшчэ 20 гадоў таму, здаецца, анічога не прадвяшчала ім бяды. Сёння гэтыя вёскі агеніэуюць.

"Вялікі Кастрычнік" наглядна паказаў, што кулаком і вінтоўкай нельга кіраваць эканомікай. Што толькі прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці і зямлю – залог эфектыўнага развіцця краіны. Што "правільныя" камуністы, якія акрамя сваіх камуністычных поглядаў не мелі ў галаве анічога, былі нашымі найгоршымі кіраўнікамі.

Вялікім эксперымент аказаўся вялікім пшыкам. А знішчэнне нашай нацыянальнай эліты стала незаменнай стратай, якая асабліва востра адчуваецца сёння.

Што выдатнага пабудавалі ў нашым раёне (і, па вялікаму рахунку, па ўсёй Беларусі) за 100 прамінулых гадоў? Што стварылі перадавога?

100 гадоў страчанага часу. 100 гадоў крыві і няшчасця. Больш нічога.

**Г.Станкевіч**

Партал твайго горада: http://beshankovichy.by

****

*Калі восень дажджом*
*злёгку нервы астудзіць мае,*
*калі барвай густой*
*ліст кляновы яна акрывавіць,*
*светлых згадак часіна*
*няўмольна тады настае,*
*і нямое кіно з пераўжытага*
*зноў ажывае.*

*І паўзе пакрысе*
*слімаком бесклапотным кудысь,*
*а падчас страпянецца –*
*нясецца імклівай лавінай.*
*Быццам знічкі з нябёсаў*
*зрываюцца ў бездань гады –*
*я каштую на смак*
*успамінаў каштоўныя віны.*

*Мне не сумна, ды не!*
*Нават злёгку хмялею пры тым,*
*як іду па шархоткай лістоце*
*ля роднае хаты.*
*Малады, як той клёнік,*
*што побач лістом залатым,*
*невялічкай далонькай сваёй,*
*ловіць дожджык заўзята.*

*Ён ад маці адбег,*
*басаном на пагорак уцёк,*
*і, нібыта не чуе яе, падшыванец,*
*дурэе.*
*Як хачу я, каб сонца*
*свяціла яму ўсё жыццё,*
*і каб маці ўсіх нас*
*дачакаліся*
*і не старэлі.*

***Г.Станкевіч***

НАША ЖЫЦЦЁ

## ПЛАН ПАДПІСКІ НА ГАЗЕТЫ

**Кожны квартал, а то і штомесяц дырэктар адной з школ Бешанковіцкага раёна, дзе працуе мой сябар, пачынае нараду з пытання падпіскі. Кожны настаўнік мусіць выпісаць штосьці з названых выданняў: раённую газету "Зара", "Віцебскія весці", "СБ", "Настаўніцкую газету" або "Звязду".**

Настаўнікі мусяць прынесці квіткі на выданні і даць справаздачу. Такім чынам забяспечваецца фінансаванне ідэалагічна "правільных" газетаў.

З аналагічнай сітуацыяй сутыкнуліся ў Ваўкавыскім раёне. Па інтэрнэце гуляе копія распараджэння аддзела адукацыі Ваўкавыскага райвыканкама да кіраўнікоў школ і садкоў раёна. У тым дакуменце даводзіцца план падпіскі на «Советскую Белоруссию», «Настаўніцкую газету», «Гродзенскую праўду»: там нават распісана, колькі супрацоўнікаў установы адукацыі колькі і якіх менавіта газет маюць выпісаць.

Падсумоўваецца гэта матывуючай фразай: «Звяртаю вашу ўвагу, што план на падпіску дадзены з улікам таго, што ведамственная падпіска не выконваецца і мы павінны яе перакрыць!!!!!».

«Наша Ніва» пазваніла начальніцы тамтэйшага аддзела адукацыі з пытаннем пра сэнс такіх планаў падпіскі. Яе перапыталі, ці сапраўды ў аддзеле адукацыі больш няма работы, як выводзіць графікі падпіскі, а потым іх адсочваць.

Цытую фрагменты размовы:

— Хто-хто вы? (Запісвае імя). Дык у чым, яшчэ раз, сутнасць пытання?

— Чаму гэтая практыка існуе? Чаму вы такія прымусы высылаеце?

— А хіба ж гэта прымус? Вы паглядзіце ўважліва. Там напісана, што мы загадваем?

— Давайце не будзем расказваць адзін аднаму анекдоты і даводзіць, што ў нашай сістэме каардынат слова «рэкамендацыя» з выканкама азначае рэкамендацыю, а не загад.

— Ніхто нікому не загадвае. Там няма слова «загадваем».

— Дык навошта вы ім «рэкамендуеце» падпісвацца?

— Падпісвацца для таго, каб чытаць. Я яшчэ раз пытаюся, там ёсць слова «загад»? Я не бачу, пра што тут больш гаварыць, да пабачэння.

Варта таксама згадаць, што нейкі час таму пісьменніца Яўгенія Пастэрнак пісала запыт у Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай патлумачыць механізм і сэнс настаўніцкіх падпісак, на што прыйшоў адказ, што такога абавязку няма.

**А.Тутэйшы.**

## КОШТЫ РЫНКУ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

**У лістападзе на бешанковіцкім рынку не асабліва людна. Паранейшаму галоўным прадуктам, які прадаецца тут цягам усяго месяца, застаецца капуста. Яе кошт — 35 капеек за кілаграм. Але ўсё актыўней з ёй канкуруе сала.**

Сала прадаюць у розных выглядах, найчасцей пасоленае вялікімі кавалкамі ці парэзанае на меншыя і складзенае ў слоікі. Яго кошт - 10 - 12 рублёў за кг.

На рынку цягам месяца было шмат мясцовых яблыкаў, нягледзечы на тое, што гэты год быў зусім не яблычны. Іх можна было набыць па рублю, але большасць гандляроў напрыканцы месяца падвысілі кошт яблыкаў да 1,5 рублі за кіло. Грушы прадаюцца па 2,5 рублі.

Бульба ўвесь месяц прадаецца па 35 - 40 капеек за кілаграм. Вядро пшаніцы каштуе 3 рублі, ячменю - 2,5. На іхнія цэны паўплывалі раённыя кірмашы, на якіх гэта пардукцыя прадавалася яшчэ танней.

Паўлітровы слоік мёду цягам месяца каштаваў 7 рублёў. Мёду на рынку шмат, а таму з пчалярамі можна дамовіцца і аб зніжцы, асабліва тым пакупнікам, хто бярэ адразу некалькі літраў.

На рынку ўсё яшчэ прадаюцца журавіны. Але калі адзін літр на пачатку месяца прадавалі за 2 -2,5 рублі, то напрыканцы месяца за літр просяць ужо 3 рублі.

Падаражэлі дамашнія курыныя яйкі. Дзясятак зараз каштуе 3 рублі.

Ёсць на рынку і азёркаўскія валёнкі. Жаночыя каштуюць 45 рублёў за пару, мужчынскія – 50 рублёў, дзіцячыя – 20-25. Яны пакуль што не нарасхоп, але зіма наперадзе, а таму можна з упэўненасцю прагназаваць павелічэнне попыту на гэты незаменны для селяніна абутак.

**М.Васільеў**

З СУДОВАЙ ЗАЛІ

# КРАДЗЕНЫМ НЕ РАЗБАГАЦЕЕШ

**У бягучым годзе ў вытворчасці Бешанковіцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзілася тры крымінальныя справы, узбуджаных на падставе ч. 1 арт. 211 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (прысваенне або растрата маёмасці асобай, якой яно даверана).**

По адной справе кіроўца аднаго з прадпрыемстваў скажаў дадзеныя прабегу службовага аўтамабіля і здзяйсняў крадзеж паліва, якое перадавалася яму пад справаздачу. Выкрадзенае паліва прадаваў сваім знаёмым, а таксама выкарыстоўваў для асабістых патрэб. Дадзены факт быў устаноўлены пры зверцы паказанняў адометра аўтамабіля і дадзеных, названых ім умаршрутным лісце. У дачыненні да мужчыны распачата крымінальная справа, падчас расследавання якой падазраваны цалкам кампенсаваў матэрыяльную шкоду ў суме больш 3400 рублёў.

Следчымі таксама ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да прадавачкі, якая прысвоіла таварна-матэрыяльныя каштоўнасці ў суме больш за 1800 рублёў. Дадзены факт быў выяўлены пры правядзенні ў яе чарговай інвентарызацыі. Падазраваная з мэтай змякчэння адказнасці за зробленае цалкам пакрыла матэрыяльную шкоду.

Нярэдкія выпадкі, калі крадуць выручку ад рэалізацыі тавараў і аказваемых паслуг.

Да прыкладу, рабочая лазні аднаго з прадпрыемстваў рэалізоўвала наведвальнікам ўваходныя квіткі з выкарыстаннем касавага апарата. Цягам месяца яна не здавала атрыманую выручку і растраціла сабраныя грошы ў суме 324 рублі на свае асабістыя патрэбы. Дадзены факт таксама быў выяўлены пры правядзенні ў яе інвентарызацыі. Жанчына ў добраахвотным парадку ўнесла грашовыя сродкі ў касу прадпрыемства.

Пералічаныя факты крадзяжоў таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў і грашовых сродкаў маюць дакументальныя доказы. Пры гэтым у названых прыкладах абвінавачаныя асобы не распачалі спроб схаваць сваю злачынную дзейнасць, і тым самым практычна выкрадалі з уласнай кішэні, бо ўсе выкрадзеныя каштоўнасці знаходзіліся ў іх пад справаздачай.

Дадзеныя прыклады яскрава сведчаць пра тое, што рана ці позна ўсё ж давядзецца заплаціць за зробленае злачынства, і схаваць яго не атрымаецца.

Усе названыя асобы не толькі былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, у ходзе следства яны пакрылі прычыненую шкоду і, акрамя гэтага, заплацілі важкія штрафы па прысудах суда.

**В. Краўцоў**
**старшы следчы**
**Бешанковіцкага раённага**
**аддзела Следчага камітэта**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# РОДЫ Ў П'ЯНЫМ УГАРЫ

**На мінулым тыдні пад старшынствам намесніка старшыні Шумілінскага райвыканкама Ірыны Шалахавай прайшло чарговае пасяджэнне камісіі па справах непаўнагадовых гэтага раёна.**

Пра ўмовы жыцця дзяцей у сем'ях, бацькі якіх здзейснілі цяжкія ці асабліва цяжкія злачынствы і стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі РАУС, расказала спецыяліст аддзела адукацыі, спорта і турызму райвыканкама ВольгаДалецкая.Былоадзначана, што ў такіх сем'ях выхоўваюцца 22 непаўнагадовыя. У сацыяльна небяспечным становішчы знаходзіцца адна сям'я, у якой выхоўваецца пяцёра дзяцей.

На пасяджэнне камісіі былі выкліканы бацькі, сем'і якіх знаходзяцца на кантролі. Былі праведзены прафілактычныя гутаркі.

Проста шок выклікала ў членаў камісіі гісторыя 29-гадовай жанчыны, якая трымала адказ перад членамі камісіі. Сама яна з Бешанковічаў, там у яе двухпакаёвая кватэра, праўда, з вялізнай запазычанасцю за камунальныя паслугі. Апошнім часам жыла ў свайго кавалера ў Мікіцісе. Зацяжарыла, на ўлік стала ў позні тэрмін.

2-га лістапада, будучы ў нецвярозым стане (алкатэстар паказаў 2,03 праміле), яна нарадзіла. Нарадзіла дома, без нагляду медыцынскіх работнікаў, у поўнай антысанітарыі. Хуткая дапамога забрала немаўляці ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы, зараз малое знаходзіцца ў віцебскай бальніцы.

На камісіі жанчына вяла сябе нахабна. Нічога дрэннага, на яе думку, не здарылася: "Прададзім кватэру, купім дом і будзем жыць". Жанчына не стварыла ніякіх умоў для свайго малога, не набыла ніводнай пялёнкі, ніводнай дзіцячай рэчы. Як збіраецца гадаваць немаўляці? Гэтае пытанне на пасяджэнні засталося без адказу. Склалася ўражанне, што жанчына проста не разумее свайго ўчынку.

"Навесці парадак у кватэры па месцы рэгістрацыі, набыць неабходныя дзіцячыя рэчы", – такое рашэнне камісіі. І толькі калі яно будзе выканана, жанчына зможа забраць дзіця.

**Алесь Сакалоў**
**"Герой працы"**

ТРАНСПАРТ

# «НЯБЕСНАЯ ДАРОГА» ПРАЗ ДЗВІНУ

**Напэўна, не існуе такой краіны, якая не адчувала б транспартных праблемаў. Не выключэнне і Беларусь.**

Жыхароў Бешанковічаў, да прыкладу, штогод хвалюе адно і тое ж пытанне - пераадоленне воднай перашкоды шырынёй 184 метры для таго, каб з аднаго берага ракі Дзвіна патрапіць на іншы на працу, вучобу ці проста ў краму. Узімку пераправіцца можна па лёдзе, калі ён моцны. З вясны да восені арганізуюць пантонную пераправу, а ў міжсезонне УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік" перавозіць людзей на лодках. Аўтатранспарту ж даводзіцца ехаць у аб'езд дзясяткі кіламетраў.

Мост тут быў у даваенныя гады. Аб будаўніцтве новага гавораць ужо даўно, але як доўга чакаць яго ўзвядзення, ніхто сказаць не можа. Прычына да банальнасці простая - дорага, няма сродкаў.

Яшчэ адным рашэннем праблемы магла б стаць прынцыпова новая разнавіднасць транспартных сістэм, прыдуманая беларускім інжынерам Анатолем Юніцкім 40 гадоў таму.

Усе гэтыя гады ён спрабаваў данесці сваю ідэю да чыноўнікаў розных узроўняў, але ім здавалася ўсё нейкім вельмі ўжо фантастычным. Хоць пра тэлефон без правадоў мы ж таксама марылі ўсяго якіх-небудзь 30 гадоў таму, і вось нашы мары сталі рэальнасцю.

Такую дарогу можна размяшчаць над звычайнымі, таму ў заторах на дарозе стаяць не давядзецца, а бяспеку руху на другім узроўні забяспечвае супрацьсходная сістэма.

Поўная аўтаматызацыя перадае стырны кіравання кампутару, які штосекундна адсочвае рух кожнага ўдзельніка і кіруе ім у залежнасці ад зменлівай сітуацыі - нешта накшталт адзінага дыспетчарскага пункта, такім чынам выключаецца чалавечы фактар.

Акрамя ўсяго іншага перавагі SkyWay у тым, што струнныя трасы займаюць мала месца, бо канструкцыі эстакадна-падвесныя, якім патрэбныя толькі невялікія ўчасткі пад апоры. А гэта значыць, што іх можна ўзводзіць у цяжкадаступных месцах, дзе немагчыма пабудаваць звычайную дарогу або мост. Такі транспарт неабавязкова будаваць на зямлі, канструкцыі можна размяшчаць на некалькіх узроўнях і працягваць ад будынка да будынка.

СТЮ развіваецца ў трох асноўных кірунках: гарадскі пасажырскі, навясны і падвясны з хуткасцю да 150 км / г, грузавы і высакахуткасны міжгародны, які з хуткасцю да 500 км / г можа вас дамчаць да дзесяці тысяч кіламетраў! Атрымліваецца, што за 1 гадзіну можна дабрацца з Віцебска да Масквы.

У кампаніі «Струнныя тэхналогіі» ёсць ЭкаТэхнаПарк - цэнтр выпрабаванняў, пляцоўка, дзе дэманструюць, сертыфікуюць і прадаюць тэхналогію SkyWay. Тут, на 36 гектарах былога танкавага палігона ў Мар'інай Горцы Мінскай вобласці размясціліся ўзоры трас і інфраструктурных збудаванняў. Любы жадаючы можа паглядзець, як выглядае і як працуе СТЮ.

1 ліпеня 2017-га і якскарысталася такой магчымасцю і ў ліку 5000 гасцей з 60 краін адправілася на «ЭкаФэст» у Мар'іну Горку.

На ўездзе ў ЭкаТэхнаПарк стаіць адзін з першых эксперыментальных узораў СТЮ - аўтамабіль ЗІЛ-131. Менавіта гэтая машына з спецыяльна адаптаванымі коламі выкарыстоўвалася ў якасці тэставага модуля ў 2001 годзе ў горадзе Азёры Маскоўскай вобласці, дзе быў пабудаваны першы выпрабавальны палігон тэхналогіі SkyWay, які задаў імпульс далейшаму развіццю струннага транспарту. Дарэчы, узвядзенне палігона вялося па замове адміністрацыі Краснаярскага края.

Зусім па-іншаму выглядаюць сённяшнія мадэлі - юнібайкі, юнібусы, юнітракі, якія як быццам матэрыялізаваліся з нейкага фантастычнага фільма. І як жа прыемна ўсведамляць, што збіраюцца яны не дзе-небудзь за мяжой, а ў роднай Беларусі: у кампаніі ёсць свой цэх у Шабанах, дзе да таго рабілі «Ё-мабілі».

Ужо цяпер у ЭкаТэхнаПарку можна ўбачыць гарадскі транспарт - юнібусы (для перавозак пасажыраў на адлегласці да 200 км) і юнібайкі (замена аўтамабілю, ровару, матацыклу з максімальнай хуткасцю 150 км / г).

Да наступнага «ЭкаФэсту», які традыцыйна пройдзе ў ліпені, распрацоўшчыкі будуюць трасу даўжынёй 22 км, дзе СТЮ зможа разагнацца да заяўленых 500 км / г. Цяперашнія лініі занадта кароткія для гэтага.

Уразіў у ЭкаТэхнаПарку і драўляны вакзал з раслліннасцю на даху. На такіх плануецца перасадка з гарадскога струннага транспарту на міжгародны. Прычым, як для сябе вызначылі стваральнікі, інтэрвал руху транспарту складае 20 секунд.

Адной з асаблівасцяў Sky-Way з'яўляецца экалагічнасць. Па-першае, пры эксплуатацыі згарае ў разы менш кіслароду, скарачаюцца выкіды ў навакольнае асяроддзе. А па-другое, у зоне будаўніцтва транспартных эстакад не парушаецца ландшафт, захоўваецца навакольнае флора і фаўна. І гэта таксама прадэманстравана ў ЭкаТэхнаПарку.

**Рашэннем праблемы для Бешанковічаў магла б стаць «нябесная дарога» - Sky-Way. Пад гэтым брэндам у свет прыходзіць струнны транспарт Юніцкага (СТЮ).**

Побач з ўльтрасучаснымі трасамі створана падсобная гаспадарка, дзе вырошчваюць яблыкі, вінаград, агуркі, клубніцы, лук, салату і іншае. І ніякай хіміі! Толькі натуральныя арганічныя ўгнаенні. Тут ёсць нават свой пчальнік і невялікія грыбныя плантацыі. Так што сваю назву парк цалкам апраўдвае: не толькі «тэхна», але і «эка».

Ужо цяпер SkyWay атрымаў міжнароднае прызнанне. Кампанія не шукае падтрымку ў дзяржаў. Інвестарамі з'яўляюцца простыя людзі па ўсім свеце, а іх сення ўжо больш за 300 тысяч з 237 краін і тэрыторый. Імёны тых, хто паверыў у ідэю Анатоля Эдуардавіча і ўклаў свае сродкі ў праект да 15 красавіка 2017 года, ўвекавечаны на століі ў музеі гісторыі развіцця струнных тэхналогій у ЭкаТэхнаПарку.

У цэнтры выпрабаванняў Sky-Way ўжо пабывалі віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Калінін, прафесарска-выкладчыцкі склад і студэнты ВНУ, якія рыхтуюць спецыялістаў транспартнай галіны, - Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту, а таксама дэлегацыі многіх краін, якіх зацікавіў новы від транспарту. Сярод іх - Індыя, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Інданезія, Аўстралія, Малдова, Кыргызстан, Расія і іншыя.

Першым горадам у свеце, дзе на працягу трох гадоў будзе пабудавана 15-кіламетровая траса SkyWay, хутчэй за ўсё, стане індыйскі Дхарамсала, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя Далай-ламы, які, дарэчы, прымаў Анатоля Юніцкага у сябе і блаславіў яго стварэнне.

Аднак дзе б ні з'явілася першая транспартная сістэма SkyWay, нулявы кіламетр "нябеснай дарогі» ўсё ж застанецца ў Беларусі, у Пухавіцкім раёне. Гэта замацавана ў ЭкаТэхнаПарку спецыяльным знакам, які контурам нагадвае карту нашай краіны.

**Алена Алімава**
**Віцебскія весці**

## АБ'ЯВА

• ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

• ***Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

• ***Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

БЕЛАРУСЬ–КІТАЙ

# АДНОЙ ДАРОГАЙ, АЛЕ Ў РОЗНЫЯ БАКІ

**Паміж Беларуссю і Кітаем шмат агульнага. Адрозненні выяўляюцца толькі ў адным — у канчатковым выніку. За два дзесяцігоддзі сярэдні заробак у Кітаі павялічылася з 50 да 750 долараў. І палітычная несвабода гэтаму не перашкодзіла. Беларусь жа чарговым разам спрабуе штурмаваць 500-доларавы мяжу...**




…Але дзе сёння Кітай і дзе Беларусь? І чаму сялянская краіна, што знішчыла падчас «Культурнай рэвалюцыі» сваю інтэлігенцыю, за тры дзесяцігоддзі здолелаператварыцца ў сусветную майстэрню, а «зборачны цэх» СССР за гэты ж час перайшоў у шэрагі дзяржаў-жабракоў, няздольных пражыць без чарговы крэдытнай падачкі?

**Мы апярэдзілі Самалі і Судан**

За два дзесяцігоддзі сярэдні заробак у Кітаі павялічылася з 50 да 750 долараў. І палітычная несвабода гэтаму не перашкодзіла. Беларусь жа чарговым разам спрабуе штурмаваць 500-доларавы мяжу. Да канца года засталося тры месяцы. Надзея яшчэ не зусім памерла, але яе стан блізкі да каматознага.

Краіны, якія міжнародная няўрадавая арганізацыя «Freedom House» адносіць да несвабодных, на мове «Азбукі паліталогіі» называюцца аўтакратыямі. Варта адрозніваць персаналістычныя аўтакратыі (беларускі выпадак) ад партыйных, якія да распаду савецкага блоку не былі рэдкасцю.

Сучасны Кітай — унікальная аўтакратыя. Камуністычная партыя не толькі захавала манаполію на ўладу, але і асвоіла тэхналогію перыядычнай змены сваіх лідараў, выключыўшы тым самым «гонку на лафетах», якую са здзіўленнем назіраў свет у СССР у пачатку 1980-х гадоў.

З дапамогай Сусветнага банка паспрабуем асэнсаваць сілу і эфектыўнасць вертыкалі дзяржаўнай улады ў Беларусі і Кітаі (глядзі табліцу). Рэйтынг якасці дзяржаўнага кіравання разлічваецца экспертамі банка на аснове некалькіх сотняў пераменных для кожнага з шасці паказчыкаў у інтэрвале ад 0 да 100. Чым ніжэйшы рэйтынг — тым горшая якасць кіравання. Ісціна пазнаецца ў параўнанні, таму ў табліцу мы ўключылі і рэйтынг Аўстраліі.

Першае, што кідаецца ў вочы, — гэта правал па паказчыку «ўлік меркавання насельніцтва і падсправаздачнасць дзяржаўных органаў». Лепшай ілюстрацыі да слогану «Дзяржава для народа», мабыць, і не прыдумаць. Горш, чым у Беларусі і Кітаі, меркаванне насельніцтва ўлічваецца толькі ў Іране, Лаосе, Самалі, Судане, Экватарыяльнай Гвінеі, Эрытрэі і Паўночнай Карэі.

Адносна высока Сусветны банк ацаніў палітычную стабільнасць у Беларусі. Яна ў 1,7 разы вышэй, чым у Кітаі, але ў 1,8 разы ніжэй, чым у Аўстраліі. Адсюль двайстасць ацэнак: з аднаго боку, прэтэнзіі АП на тытул «донара рэгіянальнай стабільнасці», з другога — пастаянныя развагі на тэму «разгойдвання лодкі».

Што тычыцца астатніх паказчыкаў, то ўсур'ёз казаць пра канкурэнцыю беларускай вертыкалі з кітайскай не даводзіцца…

**Паводле рэцэпту Канфуцыя**

«Калі мы не вывучаем грамадскую думку, дык мы не маем права прамаўляць сваё ўласнае меркаванне. Грамадская думка — кіраўніцтва да дзеяння». Аўтар цытаты—МааЦзэдун.Ягословы не разыходзяцца са справай. У краіне дзейнічаюць больш за тысячу фірмаў, якія праводзяць апытанні насельніцтва, і ўлада шчодра выдаткоўвае сродкі на сацыялагічныя даследаванні.

«Мой пекінскі суседскі камітэт і мэрыя, — адзначае амерыканскі пісьменнік Джэф Браўн, — пастаянна размяшчаюць аб'явы, якія запрашаюць групы людзей — арандатараў, домаўладальнікаў, тых, каму за 70, жанчын, маладзейшых за 40 гадоў, тых, хто мае ці не мае медыцынскіх страховак, пенсіянераў — на разнастайныя апытанні».

Уявіць сабе нешта падобнае ў Беларусі немагчыма. Дзяржаўныя сацыялагічныя службы, якія праводзяць апытанні за грошы падаткаплатнікаў, не спяшаюцца даводзіць вынікі сваіх даследаванняў да тых, хто іх аплачвае. Вось такая дэмакратыя! Што да незалежных сацыялагічных службаў, дык каб іх падлічыць, хопіць пальцаў на адной руцэ.

Кітайскі варыянт пабудовы мерытакратычнай дзяржавы грунтуецца на вучэнні, распрацаваным Канфуцыем (553–480дан.э.).Ягоцэнтральны элемент — упарадкаванне адносін кіраўнікоў і падданых. На працягу тысячагоддзяў галоўнай сельскагаспадарчай культурай у Кітаі з'яўляўся рыс. Каб яго вырошчваць, патрэбная была не толькі ўпартая праца сялян, але і эліты найвышэйшага ўзроўню, без чаго было немагчыма стварэнне складаных ірыгацыйныхзбудаванняў.Таму сістэма адбору дзяржаўных службоўцаў пры дапамозе адмысловых экзаменаў — адзін з найбольш вядомых інстытутаў традыцыйнага Кітая. І ўжо паўтары тысячы гадоў яна функцыянуе ў амаль нязменным выглядзе.

Беларусь жа была і застаецца прыкладам ручнога кіравання. «Гэта не індывідуальны стыль, — тлумачыць філосаф Аляксандр Рубцоў, — а аснова рэжыму». Нездарма ж АП называе кіраўнікоў раённых адміністрацый «гаспадарамі», якія маюць «салідныя індульгенцыі, салідныя прыкрыццё» з боку АП. Гэта прыкрыццё абараняе «гаспадароў» не толькі ад губернатараў, але і ад насельніцтва…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# ЛЮБЫЕ ВЫБОРЫ — РАЗ ПЛЮНУТЬ

**Местные выборы 2018 года (да и любые другие) для режима — лишь дело техники. Но без политической конкуренции власть загнивает, а будущее страны оказывается под ударом...**

Александр Лукашенко предсказуемо согласился назначить местные выборы на 18 февраля 2018 года. Столь же предсказуем и сюжет кампании. Никаких изменений в избирательное законодательство белорусские власти вносить не стали. Впрочем, показная либерализация не исключена: в местные Советы могут пропустить несколько десятков умеренных представителей оппозиции.

**Смутьянов утихомирили**

Если же серьезно, то оснований волноваться за исход грядущей кампании у высокого начальства нет. Хотя в принципе с фразой Лукашенко, что февраль — спокойный месяц, можно поспорить.

Видимо, так казалось и в минувшем феврале, когда глава государства отправился в Сочи. Но как раз тогда в столице прошел первый «Марш возмущенных белорусов», оказавшийся неожиданно многолюдным по меркам здешней политической зимы, — до трех тысяч участников.

Эта акция стала детонатором протестов в регионах против, мягко говоря, неудачного декрета № 3. В итоге президент был вынужден дать силовикам отмашку на жесткие действия, кульминацией которых стал зловеще-эффектный разгон Дня Воли 25 марта вымуштрованными подразделениями «робокопов» в навороченных доспехах.

Но сегодня предпосылок для подобных бунтов электората, подогреваемого «пятой колонной», нет. Дала эффект комбинация методов: устрашение, перелицовка «антитунеядского» декрета, директивное повышение зарплат и т.д. Всем до сакральной тысячи рублей к концу года, конечно, не повысят, но рост налицо.

А главное, выросли цены на нефть и основные продукты белорусского экспорта. Так что потекла кое-какая валюта — и пока можно даже отодвинуть переговоры о кредите с МВФ, который, в частности, бухтит по поводу волюнтаристского повышения зарплат и настаивает на росте коммуналки.

«Местная власть в Беларуси фактически не является властью», — отметил в комментарии для Naviny.by эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск) Валерий Карбалевич, имея в виду весьма ограниченные полномочия Советов. … При этом, прогнозирует Карбалевич,«знаковыхлюдей от оппозиции в Советах не будет», туда попадут разве что «те, кто доставит минимум хлопот».

Такой опыт у властей уже есть: пропустив в Палату представителей на выборах 2016годаЕленуАнисимиАнну Канопацкую, белорусский режим вроде как угодил Европе и в то же время, как вполне ясно сейчас, через год, не получил гвоздей в стуле. Дамы-депутаты повели себя значительно умереннее, осмотрительнее, чем ожидали многие политические болельщики. А у Канопацкой даже возникли явные терки с руководством родной партии — Объединенной гражданской.

Лидер движения «За Свободу» Юрий Губаревич допускает, что сейчас «в районные, сельские или поселковые Советы будет пропущено до тридцати демократических депутатов». Интересное совпадение цифр: само движение тоже ограничится выдвижением по всей Беларуси лишь трех десятков кандидатов (при том что на этих выборах «разыгрывается» 18 111 депутатских мандатов). Плюс кампания наблюдения «Право выбора» в сотрудничестве с другими оппозиционными структурами.

**Первый президент не властен только над временем**

По большому счету, не только местные, но и парламентские, и даже президентские выборы при любовно отлаженном механизме элегантных побед являются для Лукашенко вопросом в основном техническим.

Вот теперь, к слову, надо помозговать, как развести очередные выборы президента и Палаты представителей, поскольку по графику они почти совпадают. Возможно, одну из кампаний передвинут с 2020 на 2019 год. И более вероятно, прогнозируют эксперты, что урежут каденцию депутатам, а не президенту.

А так — да, стабильность. Революцией в стране и не пахнет, а чисто электоральным образом эту власть не поколебать.

Бессменный президент Беларуси не властен только над временем. Ахиллесова же пята авторитарных режимов персоналистского типа — то, что отсутствует нормальный механизм транзита власти. И тем более нет развитого политического класса.

А это означает, что после Лукашенко с большой долей вероятности нашу страну ждетилиновыйавторитаризм (возможно помягче), или какой-то вариант гибридной аннексии. Для восточной соседки при определенных обстоятельствах это тоже может стать лишь делом техники. При этом Москва, пожалуй, милостиво оставит белорусам флаг и герб. Они же — почти как были в БССР.

Но даже если отбросить апокалиптические сценарии, то главный порок системы налицо уже сегодня. Мы четко видим, что без политической конкуренции власть деградирует и загнивает, обрекая на деградацию и всю страну.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

РЭДКІ КІРАЎНІК

# МЭР СЛУПСКА: ЖИТЕЛЯМ НЕ МЕШАЕТ ТО, ЧТО Я ГЕЙ…

**По данным последних польских соцопросов, каждый четвертый поляк готов проголосовать за Роберта Бедроня как кандидата на пост президента Польши в 2020 г. 41-летний Роберт Бедронь — польский политик, публицист, первый и пока единственный депутат Польского Сейма, открыто заявивший о своей гомосексуальности**

В 2014 г. Роберт Бедронь победил на выборах мэра (в Польше эта должность называется «президент») г. Слупска с населением 95 тысяч. Кроме того, что Бедронь не имел ни родственных, ни профессиональных связей со Слупском, он стал президентом города, у которого были миллионные долги. Что из этого вышло, на чем пришлось экономить жителям города, как президент города общается с народом – об этом Роберт Бедронь рассказал Марине Гуляевой.

***- Когда вас избрали президентом Слупска, долги города составляли около 300 млн. злотых ($85,7 млн.) – какова сейчас финансовая ситуация?***

- За три года мы уменьшили долг почти на 60 млн. злотых. Это было очень жесткое «затягивание поясов». И это началось с самого верха. Я, для того, чтобы убедить жителей города в необходимости экономии, должен был начать с себя. Я отказался от служебного автомобиля и пересел на велосипед. Мы в Ратуше перестали покупать бутелированную воду – да, символическая экономия, около 20 тыс. злотых ежегодно, учитывая 500-миллионный бюджет. Но люди увидели, что я начал экономию с самого себя. Кроме того, я ограничил административные расходы, уволил какое-то количество людей…

***- А как это выглядит – город-банкрот?***

- Приходит инспектор и постановляет, что город ни на что не может тратить, кроме текущих расходов. Т.е, все доходы должны идти на выплату долга. Город не может ремонтировать дорог, не может рассчитывать на европейские средства. Пока не будет выполнена программа по выплате долга. PiS бы хотел, чтобы я обанкротился, но я не дамся (смеется). Еще я ограничивал движение общественного транспорта, не включал освещение Ратуши... А что еще оставалось делать?.. Я не закончил строительство аквапарка – а как?.. Такие долги и плескаться в аквапарке?.. И не закончу строительство, пока не осознаю, что мы уже вышли на ровную дорогу.

***- В одном из интервью вы сказали, что только журналистов интересует ваша сексуальная ориентация, а ваших избирателей – нет.***

- Да, моих избирателей больше интересовало, отремонтирую ли я дороги. Жителям города не мешает то, что я гей, им мешает, что в городе нет тротуара. А я не мог этого сделать в первые два года, потому что у меня просто не было денег! Я вообще не мог сделать все те вещи, которые мои избиратели видели в других городах. Я взял город-банкрот! Буквально через несколько дней, как я стал президентом города, приехала ко мне фирма, которая знала, что город уже не может взять кредит в банке, и предложила мне, чтобы я заложил Ратушу! Потому что они знали, что у меня нет выбора. И тогда я понял, что к..., в самом деле все очень плохо. Мой соперник на выборах, который был уверен, что выиграет выборы, говорил мне: «Роберт, я в шоке от того, что тут в Слупске происходит! Если через год меня не вывезут на тачке отсюда, то это будет просто чудо!» И когда я выиграл выборы, то каждый день вспоминал эти слова, что вывезут на тачке...

***- Что вас больше всего поразило, когда вы встречались с людьми?***

- Человеческое разочарование. Люди говорили о том, что государство о них забыло. Я видел, что у людей пропало чувство собственного достоинства! А я бы хотел, чтобы люди в Слупске чувствовали, что они не хуже, чем другие, что Слупск не хуже, чем другие города в Польше! Да, Варшава – супер, но наш Слупск – тоже супер!

***- Чем из сделанного в Слупске вы особенно гордитесь?***

- Очень горжусь тем, что привлек жителей города к участию в делах Слупска. Я хочу вернуть людям веру в то, что они могут принимать решения о делах города, и для этого я создал множество всяких рад. Кроме того, что я регулярно выставляю на улицах Слупска красный диван и сажусь на него...

***- Простите, что вы делаете?..***

- Ставлю на улицах красный диван, сажусь на него и разговариваю с жителями города. С людьми ведь нужно разговаривать, правда?.. А еще я читаю лекции о демократии в школах, недавно начал читать лекции о польской Конституции. Так вот, я создал Раду женщин, Раду пенсионеров, Раду культуры и еще множество рад, куда входят жители Слупска. Как говорят мои чиновники – у нас такой Крайрад. Все просто – я не заканчивал университета, где учат, как быть президентом города. И я не самый умный на свете. Для меня самое главное знать, что думают люди - женщины, пенсионеры, молодежь – о своих проблемах, о проблемах города. И в своих Радах они говорят об этом. Чиновники Ратуши Рады терпеть не могут – а как же, конкуренты! Зачем им конкуренты, если они самые умные?.. Зачем им какие-то Рады?..

***- А много было желающих вступить в Рады?***

- Очень много! Особенно среди женщин. Говоря о женщинах, у нас в органах управления городских учреждений почти не было женщин. Мне все объясняли, что это потому, что, мол, очень мало компетентных женщин. Но я не верил. И ввел квоту – не менее 40% женщин должно быть в органах управления. Смех начался - что он тут за «Сексмиссию» такую устраивает («Сексмиссия» - известная польская комедия 1983г., в советском кинопрокате проходила под названием «Новые Амазонки». Фильм о том, как женщины захватывают власть на планете, М.Г.)! Меня упрекали, что это искусственное насаждение, что сами женщины этого не захотят... Ничего подобного! Толпы женщин захотели войти в органы управления!

***- О Слупске год назад писали, что это единственный город, на сайте которого вывешивается информация не только о вашей зарплате, но и всех чиновников Ратуши – это до сих пор так?***

**Слупск – по-прежнему единственный город в Польше, где все расходы, зарплаты, счета, мой календарь, календарь моих заместителей – все это можно увидеть в режиме онлайн.**

- Да, все можно увидеть и проверить - на что мы тратим деньги города. И вот эта транспарентность привела к тому, что мне стало проще разговаривать с жителями города, потому что все было открыто. Ничего не скрывалось и не скрывается. Люди не верят власти, потому что не знают, что власть делает. Я знал, что никто бюджета города не читает – ни жители, ни те, кто его разрабатывают. Поэтому я сделал бюджет в виде комикса – его можно прочитать в автобусах, в Ратуше взять.

***- Говорят, зарплата у вас меньше, чем у других президентов таких же городов – 8 тыс. злотых ($2,2тыс. ).***

- Да, самоуправленец в меньшей административной единице получает больше, чем я. И это тоже вопрос солидарности с жителями города: если я говорю жителям города, что мы экономим, то я сам тоже должен экономить. Если я говорю, что мне очень важно доверие людей, то я должен выходить со своим красным диваном на улицы и разговаривать с людьми! Если я хочу, чтобы мой город выплатил долги, хочу, чтобы люди мне доверяли – что, я должен сидеть в лимузине и не выходить из своего кабинета?! ..

*(моцна скарочана)*

**http://www.belaruspartisan.org**

БЕЛАРУСЬ – ЕС

# ВАЖНА СЫСЦІ АД ЗАЛЕЖНАСЦІ АД АДНОЙ КРЫНІЦЫ

**Кіраўнік беларускай дэлегацыі на саміце «Усходняга партнёрства» ў Брусэлі, міністр замежных справаў Уладзімір Макей па завяршэнні мерапрыемства цэлую гадзіну размаўляў з журналістамі.**

Макей быў у вельмі пазітыўным настроі, шмат усміхаўся і жартаваў. Варта адзначыць, што далёка не ўсе кіраўнікі дэлегацый былі настолькі ж адкрытыя для размоваў з прэсай. Парашэнка фактычна ўцякаў ад журналістаў. Аліеў, Саргсян рабілі тое ж самае. Макей адказваў на пытанні, пакуль не скончыліся, больш за гадзіну.

… Міністр шмат гаварыў, што самае важнае на сённяшні дзень — гэта стабільнасць у нашым рэгіёне. «Мы зацікаўленыя ў больш прагматычным, заземленым характары адносінаў. Узаемадзеянне мусіць быць нацэленым на канкрэтныя вынікі, каб звычайныя людзі адчулі, што такое „Усходняе партнёрства“. Не нейкае там партнёрства на ўсходзе, а што гэта за праграма. Напрыклад, у Брэсце, каб дзякуючы „Усходняму партнёрству“ была аднаўленая памежная інфаструктура, з'явіліся новыя транзітныя калідоры, а адпаведна і новыя працоўныя месцы».

Немагчыма было абысці тэму Расіі. Уладзімір Макей сказаў, што і дзякуючы Беларусі Расія ніякім чынам не згадваецца ў выніковай дэкларацыі. «Мы зацікаўленыя ў больш цесным супрацоўніцтве паміж еўразійскімі і еўрапейскімі інтэграцыйнымі аб'яднаннямі. Патрэбны больш цесны дыялог, накіраваны на ўзнаўлення даверу паміж намі», — адзначыў міністр.

«Мы не ставім задачу, і ніхто ад нас не патрабуе стрымгалоў бегчы ў ЕС, мы з'яўляемся сябрам Еўразійскага эканамічнага саюза, нам трэба яго развіваць. Аднак вельмі важнай з'яўляецца тэма дыверсіфікацыі, каб мы сышлі ад залежнасці ад адной крыніцы, накірунку. Каб мы ў крызіснай сітуацыі маглі мець нейкія падушкі. Еўрапейскі саюз — гэта вельмі важны гандлёва-эканамічны партнёр. Мы не будзем разрываць партнёрскія сувязі з Расіяй, але трэба развіваць з ЕС і больш далёкай дугой», — гэта не новая пазіцыя МЗС. І ягоны кіраўнік часта агучвае такую афіцыйную пазіцыю.

Калі пытанні Макею задавалі па-беларуску, іх было нямала, у тым ліку ад «НН», то Макей адказваў па-беларуску. Адзначым, што мова Макея правільная, гаворыць ён на ёй амаль без памылак. Звяртала ўвагу, што міністр ужываў слова «звяз», а не «саюз».

«Калі казаць мае асабістыя адчуванні, то з 25 гадоў незалежнасці мы мелі 20 гадоў абмежаванняў у адносінах з ЕС, то санкцыі нейкія, то яшчэ штo. Летась у лютым большасць санкцый былі адмененыя. Дзякуй богу, што да еўрапейцаў прыйшло разуменне, што немагчыма імгненна нешта змяніць. У нас розныя сітуацыі — менталітэт, кантэкст, дабрабыт. Цяпер еўрапейцы разумеюць, што неабходна мець дыферэнцыяваны падыход. Беларусь ніколі не была краінай, якая стварала праблемы Еўразвязу. Наша мяжа — самая надзейная».

Чыноўнік адзначыў, што да наступнага саміту праз два гады Беларусь падыдзе з канкрэтнымі дакументамі.

«Беларусь падыдзе да гэтага саміту з новым узроўнем супрацоўніцтва з Еўропай. Будуць пагадненні, пра якія ўсе будуць гаварыць. Не буду канкрэтна гаварыць пра дамоўленасці. Мы зацікаўленыя, каб базавае пагадненне паміж Беларуссю і ЕС было падпісана як мага хутчэй. Наконт візаў сапраўды засталося зусім мала тэхнічных і 1-2 палітычных момантаў, над якімі мы працуем. Мы можам пераадолець гэтыя цяжкасці», — гаворка пра змяншэнне цаны шэнгенскіх візаў для грамадзян Беларусі.

Карэспандэнт «Нашай Нівы» пацікавіўся, ці меў Макей размову з Ангелай Меркель, з якой сядзеў побач на саміце. «Я не звыкся хваліцца сваімі сустрэчамі, расказваць, пра што размаўляў з іншымі дэлегатамі. Я меў сустрэчы з кіраўнікамі дэлегацый усіх краін „Усходняга партнёрства“. На ланчы сядзеў з прэм'ер-міністрам Грэцыі. Я расказаў яму, як развіваецца нашы адносіны. Некалькімі словамі перакінуўся з Ангелай Меркель, але не хачу ўдакладняць пра што канкрэтна. Былі вельмі цікавыя перамовы з еўракамісарам Ханам і вярхоўным прадстаўніком ЕС Магерыні, ёсць шэраг прапановаў, якія мы будзем далей абмяркоўваць»…

**Зміцер Панкавец**
**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.11.2017 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.